**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 29 (797) 16 ліпеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Ужо пяты год запар полацкія археолагі вывучаюць пахаванні XIV-XVIII стст на старажытных могілках у вёсках Зябкі і Івесь. Іх фундаментальныя даследаванні ўжо знайшлі сваё адлюстраванне на старонках кніг па палеантрапалогіі Беларусі.** Працяг тэмы на стар. 4. *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



## Шырокая грашовая маса ў Беларусі за чэрвень вырасла на 4,4 працэнта

**Шырокая грашовая маса ў Беларусі, якая ўключае наяўныя грошы ў абароце, сродкі насельніцтва і прадпрыемстваў на рахунках у банках, на 1 ліпеня перавысіла Br294,5 трлн, павялічыўшыся ў параўнанні з паказчыкам на 1 чэрвеня на 4,4 працэнта. Такія даныя змешчаны ў статыстычнай справаздачы Нацыянальнага банка Беларусі, паведамляе БелТА.**

Аб'ём наяўных грошай у абароце (грашовы агрэгат М0) за чэрвень зменшыўся да Br15,4 трлн, або на 0,6 працэнта.

Актыўная рублёвая грашовая маса - грашовы агрэгат М1, які ўключае наяўныя грошы ў абароце і пераводныя дэпазіты ў нацыянальнай валюце (сродкі на бягучых рублёвых рахунках, уклады да запатрабавання ў рублях, іншыя рахункі ў рублях), – у чэрвені вырасла на 4,7 працэнта і склала Br43,7 трлн.

Грашовы агрэгат М2 (грашовая маса ў нацыянальным вызначэнні), які ўключае агрэгат М1 і іншыя (тэрміновыя, умоўныя) дэпазіты у нацыянальнай валюце, на 1 ліпеня склаўся на ўзроўні Br98,2 трлн, павялічыўшыся за чэрвень на 2,5 працэнта.

Аб'ём каштоўных папер, выпушчаных банкамі (па-за банкаўскім абаротам) у нацыянальнай валюце, за чэрвень павялічыўся да Br2,1 трлн, або на 5 працэнтаў.

Рублёвая грашовая маса (грашовы агрэгат М2*), якая акрамя агрэгата М1 уключае іншыя (тэрміновыя, умоўныя) рублёвыя дэпазіты, сродкі насельніцтва і юрыдычных асоб у рублёвых каштоўных паперах, на 1 ліпеня склала Br100,3 трлн, павялічыўшыся за чэрвень на 2,4 працэнта.

Аб'ём каштоўных папер, выпушчаных банкамі (па-за банкаўскім абаротам) у замежнай валюце, за чэрвень павялічыўся да Br13 трлн, або на 10,1 працэнта.

Дэпазіты ў каштоўных металах за чэрвень выраслі на 2,7 працэнта і на 1 ліпеня склалі Br640,5 млрд.

*БелТА.*



ISSN 2077-8023



Полацкі раён

# Знак бяды

■ Станіслаў Раманчук.

**З кожным месяцам сёлета пагаршаецца сітуацыя ў эканоміцы ў большасці рэгіёнаў краіны.**

Не пазбегнуў гэтых праблем і буйны прамысловы Полацкі раён, дзе на працягу тыдня жыхары абодвух гарадоў Наваполацка і Полацка, а таксама ваколіц паблізу іх бачылі, як з прамысловай зоны нафтаграда валіў густы чорны дым. Даўно ўжо гараджане не адчувалі пах гарэлых кампанентаў нафтаперапрацоўкі. Як аказалася, ніякай аварыі не было, а проста на мясцовым заводзе "Палімір" запускалі вытворчасць паліэтылену ў адным з цэхаў і па тэхналогіі нейкі час неабходна было правесці ўтылізацыю некандыцыйных газаў. Аднак чыста сімвалічна такія чорныя хмары дыму сведчаць аб праблемах у рэгіёне, дзе ў пачатку ліпеня колькасць даўжнікоў па даўгах па зарплаце на Полаччыне дасягнула ўжо 15 прадпрыемстваў і арганізацый. Паранейшаму маюць такія праблемы 11 гаспадарак раёна, бударганізацыі, завод "Тэхналіт", даякіх дабавілася ўпершыню і вядомае гандлёвае прадпрыемства "Гандлёвы дом "Стралец". Адначасова цяпер стала падаць і рэальная зарплата ў раней адным з самых багатых гарадоў Беларусі – Наваполацку. На мясцовым прамысловым гіганце, нафтаперапрацоўчым заводзе "Нафтан" сёлета адчувальна зменшыўся аб'ём атрыманага прыбытку ў памеры меней 4 млн. долараў за квартал. Горш таго, гэты завод пазбавіўся ўжо ад кожнага дванаццатага працуючага, там пад скарачэнне і звальненне патрапілі ўжо 928 чалавек.

Пастаўскі раён

# Кожнаму сваё

■ Кастусь Александровіч

**Без правядзення эфектыўнай мадэрнізацыі і ўкара–нення сучасных тэх–налогій многім айчынным вытворцам вытрымаць канкурэнцыю на рынку будзе праблематычна.**

У Паставах многія ўзрадаваліся, калі два прадпрыемствы райцэнтра ўключылі ў дзяржаўныя інвестыцыйныя праграмы. Аднак вось іх далейшы лёс пакуль складваецца па-рознаму. Амаль 266 млрд. рублёў пайшло на тэхпераўзбраенне мясцовага малочнага завода, дзе з'явіліся за некалькі гадоў патрэбныя ачышчальныя збудаванні і быў пабудаваны па суседстве са старым корпусам фактычна новы завод па вытворчасці цвёрдых сыроў. Ён ужо выйшаў на праектную магутнасць і цяпер выпускае ў аўтаматызаваным рэжыме на чэшскім абсталяванні да 20 тон прадукцыі ў суткі. Тэхналогіі дазваляюць выпускаць сыры вельмі высокай якасці, і гэта прадукцыя стала асноўнай для завадчан. Ад продажу сыроў на экспарт, найбольш у Расію завод атрымаў амаль 17 млн. долараў выручкі пры адначасовым зніжэнні сабекошту прадукцыі. Крыху меншая сума інвестыцый была патрачана з 2012 года на мадэрнізацыю мясцовага льнозавода. Аднак тут аказалася няўдалай бельгійская лінія. Летась на ёй вырабілі толькі 87 тон валакна пры прадукцыйнасці 2 тоны ў гадзіну. Сёлета, праўда, за няпоўных паўгода атрымалі на новым ільнозаводзе 489 тон прадукцыі, але да рытмічнай працы яшчэ далёка і пад пытаннем, ці вырасце добры лён у сёлетняе капрызнае лета.

Сенненскі раён

# Каб памяталі нашчадкі

■ Чэслаў Якубовіч.

**Падчас нядаўніх урачыстасцей з нагоды святкавання Дня Незалежнасці ў розных кутках Прыдзвіння былі ўрачыста адкрыты шэраг велічных абеліскаў і помнікаў манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.**

У райцэнтры Сянно таксама ў скверы ля цэнтральнай плошчы з'явіўся памятны знак у гонар мясцовай сялянкі Матроны Маркевіч, якая вышыла арнамент рушніка, стаўшы ўзорам для дзяржаўнага сцяга Беларусі. Як устанавілі даследчыкі, вядомы многім беларусам сімвал перадаваўся з пакалення ў пакаленне, а азначаў ён знак узыходзячага сонца з пажаданнямі шчасця. Па іроніі лёсу, гэта жанчына з багатай зажытачнай сялянскай сям'і ўмела цудоўна вышываць, прасці, вязаць, ткаць, а прыгожы рушнік вырабіла яшчэ да рэвалюцыі. У далейшым Матрона Сяргееўна пражыла вельмі нялёгкае жыццё, яе сям'ю раскулачылі, муж прапаў у засценках Гулага, дзеці галадалі, трое з шасцярых памерлі. Мясцовы краязнаўца Васіль Бандарэвіч зацікавіўся лёсам гэтага роду і даведаўся, што ў 1951 годзе брат Матроны, доктар навук прынёс легендарны рушнік, падарунак ад сястры ўАкадэмію навук БССР. Камісія зацвердзіла яго малюнак узорам нацыянальных асабліва сцей беларусаў. Кіраўніцтва раёна падтрымала прапанову энтузіастаў аб устаноўцы помніка, які вырабіў вядомы скульптар Іван Казак. Цяпер на мраморнай калоне з гербам горада навечна прапісалася імя мясцовай майстрыцы, якая пакінула свой адметны след у нацыянальнай гісторыі.

Аб самым надзёным

# ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНОМІКУ ЧАКАЮЦЬ ЯШЧЭ БОЛЬШ СУМНЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Аднак сітуацыя цяпер вельмі няпростая, акрамя таго, што і ўся бягучая пяцігодка аказалася правальнай. Замест абяцаных тысячы долараў заробкі беларусаў скаціліся да крыху больш 400 USD, у суседзяў літоўцаў мінімальная зарплата ўжо большая, чым у многіх працаўнікоў з беларускай глыбінкі. З пачатку года ВУП Беларусі, па дадзеных Белстата, знізіўся на 3 %, на столькі ж рэальныя заробкі, пенсіі не павышаліся.**

Ніколі яшчэ ў навейшай айчыннай гісторыі такога не было, каб перадвыбарная прэзідэнцкая кампанія стартавала не толькі летам, але і ў даволі спецыфічных умовах. Зборшчыкі подпісаў стануць неўзабаве хадзіць па кватэрах і ставіць пікеты для збору жаданых аўтографаў у перыяд, калі большасць беларусаў цяпер у водпусках, альбо на сваіх дачах. Некаторыя радуюцца, як той жа калектыў тэлезавода "Гарызонт", што на цэлы месяц ліпень іх адправілі ў дадатковы прымусовы водпуск з захаваннем 2/3 тарыфнай стаўкі. Увогуле паўсюдна па краіне назіраецца спад прамысловай вытворчасці, летам па скарочаным графіку сталі працаваць многія прадпрыемствы сталіцы, Гомеля, Магілёва, Віцебска, Бабруйска, Асіповічаў, Баранавічаў, Светлагорска і многіх іншых гарадоў і мястэчкаў.

Не ад добрага жыцця беларускі лідар падпісаў днямі некалькі ўказаў аб выратаванні шэрагу былых флагманаў айчыннай індустрыі. У прыватнасці, менавіта да выбараў, а дакладней да 22 кастрычніка сталічнаму МТЗ адтэрмінавалі выплату падаткаў ПДВ на суму амаль 60 млрд. рублёў. Каб завадчане іх заплацілі, то засталіся б без абаротных сродкаў і вытворчасць на шматтысячным калектыве ўвогуле б спынілася. Такія меры, па меркаванні даследчаных спецыялістаў, дапамогуць асобным прадпрыемствам пратрымацца на плаву яшчэ некаторы час. А потым усё вернецца на сваё месца: гатовую тэхніку і іншыя тавары не будзе дзе складзіраваць, іх нічто не купляе.

Паколькі зноў вырашылі разагрэць перад выбарамі грашовую масу, то можа быць напрыканцы года новы ўсплеск інфляцыі і чарговы абвал курсу беларускага рубля. Аднак вось цікава, на гэтым вось неспрыяльным фоне з вясны рэйтынг падтрымкі А. Лукашэнкі вырас на некалькі пунктаў і яго ў чэрвені падтрымлівалі амаль 39 % патэнцыйных выбаршчыкаў (сталькі ж суайчыннікаў падтрымліваюць і пуцінскую ідэю "русского мира" з анексіяй Крыма і разбоем у Данбасе). Калі ўлічыць, што па ацэнках сацыёлагаў, у восеньскіх выбарах ужо цяпер збіраюцца ўдзельнічаць 2/3 насельніцтва, то за іх вынікі кіраўніцтву краіны няма чаго непакоіцца.

Сапраўды, наш народ унікальны, ён стойка пераносіць усе жыццёвыя праблемы і многія вераць, што і на гэты раз "Бацька" зможа зноў неяк выкруціцца ды і Крэмль не дасць загнуцца свайму "малодшаму брату". Аднак сітуацыя цяпер вельмі няпростая, акрамя таго, што і ўся бягучая пяцігодка аказалася правальнай. Замест абяцаных тысячы долараў заробкі беларусаў скаціліся да крыху больш 400 USD, у суседзяў літоўцаў мінімальная зарплата ўжо большая, чым у многіх працаўнікоў з беларускай глыбінкі. З пачатку года ВУП Беларусі, па дадзеных Белстата, знізіўся на 3 %, на столькі ж рэальныя заробкі, пенсіі не павышаліся. І як у такіх умовах праводзіць чарговы Усебеларускі народны сход перад новымі выбарамі?

У нас многія людзі прывыклі жыць адным днём і аб сваім бліжэйшым будучым не надта задумваюцца, як і ў масе сваёй не жадаюць ніякіх структурных рэформ эканомікі. На самой справе ўсеабдымны крызіс толькі пачынаецца, ён прыйшоў у Беларусь рэальна і надоўга, перад нашай краінай паўстала перспектыва паўтарыць горкі лёс шматпакутнай Грэцыі. Да таго ж пасля прагляду хлусілвых расійскіх тэлеканалаў аб падзеях у суседняй Украіне ў многіх недасведчаных беларусаў прытупляецца ўсведамленне, перад якімі сур'ёзнымі выклікамі апынецца нерэфармаваная, неэфектыўная адміністрацыйна-камандная айчынная эканоміка ў бліжэйшыя некалькі гадоў.

Да прыкладу, той жа мінскі МАЗ ужо не патрэбен нават саюзнай Расіі. Не цікавыя інвестарам і іншыя буйныя беларускія прадпрыемствы, іх тэхналогіі канца мінулага стагоддзя безнадзейна састарэлі. У выніку пераважная большасць нашай прадукцыі дарагая і неканкурэнтназдольная і працэс рэцэсіі (падзення вытворчасці) толькі пачаўся. Праўда, з гэтым не згодны нязменны беларускі лідар, які ў прамове на ўрачыстым сходзе з нагоды Дня Незалежнасці абвінавіціў Захад і Расію ва ўзнікшых у нас цяжкасцях. "Но трудности эти временные и абсолютно преодолимые, падкрэсліў Прэзідэнт, - в нашей недавней истории мы выдерживали достойно и не такие испытания".

Пакуль жа беларускія ўлады паабяцалі народу пасля заваршэння выбараў у наступнай пяцігодцы знізіць інфляцыю да самага нізкага ў гісторыі паказчыка – 5 %. Спадзяецца кіраўніцтва краіны і на далейшае супрацоўніцтва з МВФ і бышчам гатовае ісці на выкананне ўмоў заходніх крэдытораў. Між тым, у пачатку лета ў Беларусі афіцыйна на ўліку знаходзіліся пакуль амаль 45 тысяч беспрацоўных, іх колькасць за паўгода амаль падвоілася. У беларускай сталіцы, напрыклад, штодзень цяпер летам становяцца беспрацоўнымі па сто і болей мінчан. Гэтым людзям крыху пашчасціла, што ў "дармаеды" іх не запішуць, але калі двойчы яны адмовяцца ад прапанаваных месц працаўладкавання, то ў 2016 годзе такіх прымусяць унесці ў казну 3,6 млн. рублёў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 16.07.15 | | | | Пятніца 17.07.15 | | | | Субота 18.07.15 | | | | Нядзеля 19.07.15 | | | | Пан. 20.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +15 | +17 | +16 | +11 | +14 | +16 | +15 | +11 | +14 | +20 | +19 | +14 | +15 | +20 | +17 | +11 | +14 | +16 |
| Ціск | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 746 | 745 | 746 | 747 | 749 | 748 | 746 | 745 | 743 | 743 | 742 | 743 | 743 | 744 |
| Вільготнасць | 1 | 3 | 3 | 2 | 1 | 3 | 6 | 3 | 1 | 1 | 3 | 2 | 2 | 1 | 1 | 3 | 2 | 5 | 6 |
| Вецер м/сек | З | З | З | З | З | З | З | Пн-З | З | З | Пд-З | Пд-З | Пд | Пн-У | З | З | З | З | З |
| | 96 | 89 | 74 | 73 | 88 | 81 | 69 | 72 | 98 | 91 | 59 | 65 | 88 | 96 | 76 | 91 | 91 | 82 | 68 |

## Дзень за днём

**Сацыёлагі зафіксавалі рост электаральнай падтрымкі А. Лукашэнкі перад выбарамі, але ён можа не перамагчы ў першым туры. У наступнай пяцігодцы прапанавалі рэалізаваць да 2020 года 24 дзяржпраграмы замест 101. Адмоўнае сальда знешняга гандлю за 5 месяцаў перавысіла 1 мільярд долараў. З чаргі на жыллё ў Беларусі знялі 32 тысячы чалавек. За паўторную язду на падпітку ў беларусаў канфіскавалі ўжо 2,5 тысячы аўтамабіляў. Урад Беларусі ўключыў у агульнадаступны пакет 9 тэлеканалаў, уключаючы спартыўны "Беларусь 5".**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Ва ўрадзе на ўмовах ананімнасці пацвердзілі, што Грэцыя не атрымае ад немцаў ні цэнта дапамогі ЕС, пакуль краінай правяць левыя папулісты партыі Сірыза.

**Егіпет.** Услед за тэрактам на пляжы ў Тунісе баевікі-ісламісты забілі генпракурора краіны Хішама Бараката і 11 вайскоўцаў егіпецкай арміі на Сінайскім паўвостраве.

**Іспанія.** Пасля 10-гадовага расследвання суддзі абвінавацілі бліжэйшае акружэнне Пуціна ў сувязях з мафіёзнай Тамбоўскай злачыннай групай, якая перабралася сюды ў 1996 годзе.

**ЗША.** Палітолаг З. Бжэзінскі прапанаваў вырашыць канфлікт у Данбасе па фінскім сцэнарыі, Расія атрымае гарантыі, што Украіну не прымуць у НАТО пры збліжэнні з ЕС.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка ўнёс у Раду законапраект аб дэцэнтралізацыі ўлады з большымі паўнамоцтвамі рэгіёнаў, але асаблівы статус для Данбаса не прадугледжаны.

**Літва.** Пасля ініцыятывы Расіі праверыць законнасць выхаду краін Балтыі з СССР глава МЗС Л. Лінкявічус прапанаваў ДзяржДуме РФ высветліць, ці круціцца Зямля вакол Сонца.

**Фінляндыя.** Краіна адмовіла ва ўездзе спікеру ДзяржДумы РФС.Нарышкіну для ўдзелу ў сесіі ПАСЕ, гэты адыёзны дзеяч уключаны ў санкцыйныя спісы неўязных Еўрасаюза.

**Інданезія.** Колькасць ахвяр, загінуўшых пры крушэнні ваеннатранспартнага самлаёта, які ляцеў са сталіцы Джакарты на востраў Натуна, перавысіла 140 чалавек.

**Расія.** Расіяне могуць паўтарыць горкі лёс Грэцыі, як папярэдзіла газета "Ведомости", з-за падзення даходаў ад нафты і зніжэння тэмпаў росту эканомікі да 2018 года на 13 %.

**Украіна.** Адзін з главароў баевікоў "ДНР", грамадзянін Расіі па мянушцы "Матарола" пахваліўся, што яны правялі пераўзбраенне і гатовы пайсці ў наступленне біць фашыстаў.

**Расія.** Амерыканскі канцэрн GM поўнасцю спыніў вытворчасць аўто і закансерыраваў свой аўтазавод пад Санкт-Пецярбургам, на якім працавала тысяча супрацоўнікаў.

**КНДР.** Пасля наведвання новага тэрмінала аэрапорта імя Кім Ір Сена глава краіны Кім Чэн Ын загадаў расстраляць архітэктара пректа за быццам дрэнны дызайн аб'екта.

**Польшча.** Урад краіны забараніў у школьных сталовых і буфетах чыпсы, салодкія напоі і булачкі, у меню сняданкаў і абедаў будзе для дзяцей больш рыбы, садавіны і гароднiны.

**Расія.** Ніводны замежны карабель не прышвартаваўся ў Санкт-Пецербургу падчас VII Міжнароднага ваеннамарскога салона ў знак пратэсту супраць агрэсіі РФ ва Украіне.

**Швейцарыя.** Унікальны самалёт на сонечных батарэях кампаніі Solar Impulse праляцеў за 80 гадзін без пасадак у небе над Ціхім акіянам рэкордныя ў свеце 5663 км.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Нават калі б А. Лукашэнка не ўдзельнічаў у новых выбарах, як заявіў палітолаг Ю. Дракахруст, у Беларусі не многае б змянілася з існуючымі парадкамі і арміяй чыноўнікаў.

**Добруш.** Некалькі сотцень кітайскіх рабочых узбунтаваліся з-за затрымак зарплаты іх кампаніяй "Сюань Юань", пяшком 25 км прыйшлі ў Гомель, каб ехаць у Мінск да пасла.

**Бабруйск.** На заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў нахабна звольнілі актывіста суполкі Свабоднага прафсаюза, хоць жонка ў дэкрэтным, а ў сям'і яшчэ двое малых дзяцей.

**Жодзіна.** Старшыня прафсаюза СПМ А. Бухвостаў здзівіўся, чаму БелАЗу не аказалі дзяржпадтрымку, бо ён самае стратнае прадпрыемства краіны, многіх вясной чакае калапс

**Брэст.** Чарговы аўкцыён па продажы дзяржпакета акцый ААТ "Брэсцкае піва" зноў не адбыўся з-за адсутнасці ўдзельнікаў, піўзавод яшчэ летась восенню прызналі банкрутам.

**Вілейка.** Па камандзе зверху "навесці парадак на зямлі" ў раёне закапалі ў катлаванах стары кароўнік і 3 целятнікі, усяго на Міншчыне такім чынам – каля 70 розных будынкаў.

**Мінск.** У чорны спіс "ганьбы і дэградацыі" прапанаваў унесці экскандыдат у прэзідэнты Я. Раманчук персону М. Мясніковіча за яго прапанову ўвесці падаткі на інтэрнэт-закупкі.

**Гомель.** У адпаведнасці з напалову сакрэтным указам № 284 дзяржпадтрымку акажуць "Гомсельмашу" і іншым гігантам індустрыі, але дзярждоўг Беларусі вырасце на 16 трлн.

**Салігорск.** Мінэканомікі Беларусі зарэгістрыравала холдынг "Ніва" бізнесменаў, бацькі і сына Рамановічаў па выпуску горна-шахтнага абсталявання з больш тысячай работнікаў.

**Мінск.** Праблемы ў А. Лукашэнкі, як папярэдзіў журналіст П. Шарамет, могуць узнікнуць, калі ў Крамлі да ўлады дарвуцца ваяўнічыя імперыялісты з ідэямі "русского мира".

**Смалявічы.** Па гарачых слядах міліцыя затрымала двух маладых беспрацоўных з Жодзіна, якія ў масках і з пісталетам абрабавалі магазін "Фаварыт" у вёсцы Паддуб'е.

**Кобрын.** Былы інжынер "Белтрансгаза" з двума вышэйшымі адукацыямі 45-гадовы Аляксандр Мех заявіў аб сваім удзеле ў прэзідэнцкіх выбарах, а потым адмовіўся.

**Жыткавічы.** На тэрыторыі заказніка "Стары Жадэн" на балотах вучоныя знайшлі рэдкі від самых вялікіх у Еўропе лятучых мышэй, іх не бачылі людзі з 1930 года.

**Камянец.** У мясцовай ЦРБ з'явілася ўжо 8 вакансій для ўрачоў, яшчэ больш дэфіцыт кадраў фельдшароў, медсясцёр, на ФАПах, маладыя медыкі не едуць на працу ў глыбінку.

**Столін.** Адразу 104 жыхароў вёскі Альшаны ахрысцілі за дзень у царкве Хрысціян веры евангельскай, іх абшчына вырасла да 1800 чалавек, людзі зусім не ўжываюць спіртное.

# Члены садаводчых таварыстваў у Беларусі будуць рабіць роўныя ўзносы незалежна ад памеру ўчастка



БелаПАН

**У Беларусі члены садаводчых таварыстваў будуць рабіць роўныя ўзносы незалежна ад памеру ўчастка. Гэта прадугледжана ўказам №323, які Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў 13 ліпеня, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара**.

Для ўдасканалення прававога рэгулявання дзейнасці садаводчых таварыстваў уносяцца дапаўненні і змяненні ва ўказ №50 ад 28 студзеня 2008 года. Пашыраецца пералік пытанняў выключнай кампетэнцыі агульнага сходу таварыства і якія не падлягаюць перадачы для разгляду сходу ўпаўнаважаных. Гэта выключэнне з членаў таварыства, прыняцце рашэнняў аб яго рэарганізацыі і ліквідацыі, зацвярджэнне перадатакавага акта або раздзяляльнага балансу.

Агульнаму сходу таварыства прадастаўляецца таксама права прымаць асоб, якія не з'яўляюцца яго членамі, на працу ў якасці старшыні праўлення, скарбніка. Пры гэтым аб абранні (вызваленні ад займаемай пасады) старшыні праўлення таварыства павінна паведаміць выдаты заключэння (скасавання, спынення) працоўнага дагавора.

Указам устанаўліваецца абавязак членаў таварыства ўносіць членскія ўнёскі ў роўным памеры незалежна ад велічыні, якія знаходзяцца ў іх зямельных участкаў, паколькі ўнёскі прызначаны для фінансавання агульных бягучых расходаў таварыства. Вызначаць канкрэтныя памеры ўзносаў і тэрміны іх занясення па-ранейшым будзе агульны сход або сход упаўнаважаных.

Статуты таварыстваў, зарэгістраваных да ўступлення ў сілу ўказа №323, падлягаюць прывядзенню ў адпаведнасць пры першым унясенні ў іх змяненняў, дапаўненняў. Да гэтага моманту яны дзейнічаюць у частцы, якая не супярэчыць яму.

Акрамя таго, указ прадастаўляе выканкаму права пры выяўленні незарэгістраваных зямельных участкаў накіроўваць грамадзянам прадпісанні аб неабходнасці звярнуцца за дзяржаўнай рэгістрацыяй у месячны тэрмін з дня яго атрымання. Невыкананне патрабаванняў прадпісанні будзе з'яўляцца падставай для канфіскацыі зямельнага ўчастка.

Указ №323 уступае ў сілу праз шэсць месяцаў пасля яго афіцыйнага апублікавання.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** З-за загаду працаваць на ўнутраны рынак прыбытак у ААТ "Нафтан" сёлета сур'ёзна знізіўся, калі ў Мазырскага НПЗ ён вырас у 2,4 разы да 1,4 трыльёна рублёў.

**Віцебск.** Абласная пракуратура распачала крымінальную справу супраць былога дырэктара ААТ "Віцязь" за прычыненне ўрону прадпрыемству звыш 2 мільярдаў. рублёў.

**Полацк.** На ўездзе ў горад паблізу ад знакамітага танка адкрылі помнік-абеліск у гонар войск 1-га Прыбалтыйскага фронта, якія вызвалілі райцэнтр ад гітлераўцаў.

**Паставы.** Акрамя адгрузкі сваіх сыроў у Расію Пастаўскі малочны завод стаў пастаўляць прадукцыю буйнейшым гандлёвым сеткам "Еўраопт", "Карона", "Алмі", "Рублёўскі".

**Шаркаўшчына.** З беларускай сталіцы прыехаў дамоў механізатар ААТ "Даватарскі" Мікалай Даравшчонак з узнагародай – ордэнам Пашаны, ён пачынаў тут працу вадзіцелем.

**Віцебск.** З-за нерэнтабельнасці закрылі самы вялікі ў Беларусі начны клуб, культурна-забаўляльны цэнтр "Энергія", на яго месцы адкрыюць восенню рынак будматэрыялаў.

**Докшыцы.** Пасля працяглага перапынку ў гарпасёлку Бягомль пачалі будаўніцтва 40-кватэрнага жылога дома, адна з кватэр у ім будзе сацыяльная, 2 узводзіць мясцовы саўгас.

**Браслаў.** На базе райкамунгаса адбыўся абласны выязны семінар па ахове працы з практычнымі заняткамі на мясцовай кацельні ўчастка цеплазабеспячэння ЖКГ.

**Ліёзна.** У райцэнтры ўрачыста адкрылі Алею Славы ў гонар землякоў, якія праславілі рэгіён працоўнымі, іншымі дасягненнямі ў розных сферах і баявымі подзвігамі.

**Гарадок.** Судмедэкспертыза ўстанавіла, што 32-гадовы мясцовы рыбак патануў на возеры ля гарпасёлка Езярышча, бо быў вельмі моцна п'яны, зачапіўся за сетку і загінуў.

**Глыбокае.** Да радасці гараджан праз паўгода капітальнага рамонту коштам 2,5 млрд. рублёў зноў адкрыўся для праезду абноўлены мост праз раку Беразоўка.

**Ушачы.** У вёсцы Белае зарэгістравалі яшчэ адну аграсядзібу "Рыбакова хата" паблізу прыгожага возера з гасцявым домікам у былой панскай клеці, лазняй і міні-кухняй.

**Шуміліна.** На дарозе Віцебск-Полацк затрымалі двух мужчын, якія перавозілі на фуры тушу лася, забітага ў ДТЗ, супраць іх могуць распачаць крымінальную справу.

**Дубровна.** У рамках традыцыйнага фестывалю песні і музыкі "Дняпроўскія галасы" ўпершыню ў Беларусі прайшло свята-конкурс 17 мастроў керамічных свісцюлек.

**Мёры.** Услед за Міжнародным фестывалем "Еўрапейскія прысмакі" ў райцэнтры правялі пробны двухдзённы фэст сярэднявечнай культуры з рыцарскім турнірам, канцэртам.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Уладзімір Скрабатун**

# Пакажыце ўнукам іншую Беларусь, і яна для іх падасца фантастыкай!

**Калі настаўніца – не важна якой мовы, рускай ці беларускай – дасць тэмай сачынення "Як я бавіла лета?", то для маёй унучкі Насці не будзе аніякіх праблемаў! Ёсць аб чым пісаць! У пачатку лета з'ездзілі на рыцарскі фэст у Браслаў, у сярэдзіне чэрвеня – на ўгодкі вядомага пісьменніка Васіля Быкава – наведалі яго радзіму, вёску Бычкі. Цяпер, пару дзён таму, мы адправіліся на археалагічныя раскопкі на бераг самага глыбокага возера Беларусі – Доўгага, што ля колішняга мястэчка Зябкі.**

Юры Калбасіч, краязнаўца, мастак і дызайнер, экскурсавод Глыбоцкага кафедральнага сабора, які часта, між іншым, быў валанцёрам на археалагічных раскопках, пытае:

– *Уладзімір Іванавіч, у Зябках полацкія археолагі на старажытным цвінтары праводзяць раскопкі на пахаваннях XIV-XVIII стст, не хацелі б з'ездзіць?*

– Паехалі! – Насця, паедзеш з намі да археолагаў?– звяртаюся да ўнучкі.

– *Паеду! А можна Антошку* (стрыечнага брата, які перайшоў у 5-ы клас) *з сабой узяць?*

– Бяром!

Пакуль дарослыя рыхтаваліся да ад'езду, дзеці ўзялі аркушы паперы і алоўкі, ды пачалі маляваць археолагаў з рыдлёўкамі ды на фоне загадкавых руінаў.

Ля Зябак, на беразе самага глыбокага возера Беларусі – Доўгага, ёсць старажытны цвінтар, якому больш за тысячу гадоў! Там і сёння хаваюць нябожчыкаў! Тысячу гадоў запар! Неверагодна!

Прыехала нас шасцёра, ужо пад вечар... Бачым, група маладых людзей крочыць па вясковай вуліцы... Так, гэта і ёсць археолагі. Ідуць у краму за прадуктамі.

Віктар Уладзіміравіч Чараўко, старэйшы выкладчык кафедры гісторыі і турызму Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэту, кіраўнік археалагічнай экспедыцыі, застаўся з намі, а хлопцы рушылі далей.

Мы падышлі да месца раскопак.

Колькі разоў прыходзілася быць тут у мінулыя гады... Нават не здагадваўся, што пад пластам зямлі, пад нагамі, столькі магілаў! Археолагі знялі гэты пласт, які быў пад 20-30 см. Столькі насыпалася за 700 гадоў! Цяпер бачна – магілы забрукаваныя крушняй камянёў, у галаве – вялікі валун альбо – каменны крыж. Археолагі даследавалі пахаванні, аднавілі забрукоўку амаль з поўнай дакладнасцю, паднялі некаторыя каменныя крыжы, што былі паваленыя. Цяпер на гэтым участку, які доўгія вякі скрываўся ад дапытлівага вока, бачная ўся паўната карціны. Так хавалі нашых продкаў сем вякоў таму...

– Калі чалавек быў ужо сталы – ён загадзя рыхтаваў сабе труну,– тлумачыць па ходзе агляду Віктар Чараўко.

– Гэта былі даўблёныя труны. Мы знайшлі адну такую. Без цвікоў. Зрабілі замеры. Каля галавы – 39 см, ля ног – 37 см, шырыня – 1 м. Калі ў чалавека здаралася нечаканая смерць – у маладым узросце: хвароба, забойства – труну рабілі з дошак, збівалі цвікамі. Такое пахаванне знайшлі побач – шмат цвікоў, мы дакладна зафіксавалі, як яны ляжалі ў зямлі.

– Захаванасць шкілетаў – вельмі дрэнная! І гэта не дзіўна – лёгкая пясчаная глеба, праз якую лёгка праходзіць вільгаць, лёгка праходзіць паветра… Усё хутка раскладаецца. Толькі тры шкілеты больш-менш нармальныя. Знайшлі дзіцячыя пахаванні, ад якіх засталіся толькі фрагменты чэрапа. Дзіцячыя пахаванні раскладаюцца самымі першымі, бо ў костках менш мінеральных рэчываў. Магчыма, іх тут было і больш, але нічога ад іх не засталося. Косткі ў пахаваннях вельмі гнуткія, трэба з імі асцярожна. Мы ўзялі іх для даследаванняў, акуратна памылі – не вязці ж з зямлёй у Мінск.

– Раскапалі мы прыкладна 70 м², шчыльнасць пахаванняў высокая – 29 пахаванняў! Пахаванні – у адзін слой. У іншых раёнах – Бешанковіччыне і Гарадоччыне – на пахаваннях XVII-XVIII стст мы фіксавалі і ў два слаі. Гэта той выпадак, калі драўляны крыж згнівае і магілы не бачна, а памерлых працягваюць хаваць на тым самым месцы. Пахаванні ж у Зябках, цягам стагоддзяў, не варушыліся ніколі.

– Як ні дзіўна – знайшлі тут шмат куляў ад вінтоўкі трохлінейкі Мосіна. Так вызначылі нашы хлопцы вайскоўцы. Меркавана з часоў Першай сусветнай вайны.

**– Якая мэта Вашых раскопак у Зябках?**– задаём пытанне Віктару Чараўко.

– На левабярэжжы Падзвіння фіксуецца вельмі вялікая колькасць могільнікаў менавіта з каменнымі канструкцыямі рознай формы,– тлумачыць археолаг. – На правабярэжжы іх фактычна няма, хіба што, за выключэннем Гарадоччыны. На левабярэжжы ж – шмат! І гэта – досыць цікавая з'ява. Што датычна зябкаўскіх могілак, то яго функцыянаванне пачынаецца з курганоў, затым – грунтовыя пахаванні з каменнай абкладкай XIV-XXVIII стст, потым ідуць пахаванні XIX ст і, нарэшце – пахаванні XX-XXI стст. 1000-гадовае, няспыннае функцыянаванне могілак.

– Вось тут такая цікавая акалічнасць ёсць. Звычайна, мясцовыя жыхары перастаюць успрымаць старажытныя пахаванні як свае родныя і пачынаюць іх называць "шведскімі", "французскімі"… Як сцвярджаюць этнографы, мясцовыя жыхары ў сваёй калектыўнай памяці фіксуюць апошніх ворагаў і прывязваюць іх да старажытных могілак. Таму, мясцовыя жыхары вельмі спакойна ставяцца да таго, што прыязджаюць "чорныя капальнікі" і раскапваюць старыя магілы. Нават раяць ім, дзе можна пакапаць! Гэта ж, на ўяўленні мясцовых жыхароў, пахаваныя "шведы і французы". Ім і на розум не прыходзіць, што тут ляжаць іх продкі – прапра…дзеды і прапра...бабулі!

– Але пахаванні XIV-XVIII стст вельмі бедныя, у іх няма нічога – ні золата, ні срэбра, ні медзі. Фіксуюцца толькі цвікі!

– Вельмі добра, што ў гэтых пахаваннях няма металічных упрыгожванняў, інакш сюды з металадэтэктарамі прыйшлі б "чорныя археолагі" і ўсё даўно перакапалі б. Праўда, тутэйшыя пахаванні маюць каменную канструкцыю і тут складана капаць. Пахаванні ў Зябках і Івесі маюць гістарычную каштоўнасць, і трэба гэтыя аб'екты браць пад ахову дзяржавы.

– Могілкі XIV-XVIII стст вельмі слаба вывучаныя. А тыя, што вывучаліся, рабіліся толькі маленькімі раскопамі. Могілкі ж трэба вывучаць толькі вялікай плошчай раскопак, тады атрымліваецца нейкая статыстыка. Напрыклад, як складзеныя рукі ў нябожчыкаў, якая арыентацыя галавы, якія адхіленні яе – на поўнач, на поўдзень, на захад ці на ўсход? Цікава нам, ці ёсць у пахаваннях інвентар? Тут няма. Якія былі труны?

– Мы даследуем вашці цікавы рэгіён з той мэтай, каб мець уяўленне, як жылі людзі і аб іх пахавальных традыцыях. У нас ёсць этнаграфічныя запісы, пачынаючы з XIX і XX стст, але ранейшыя час не даследаваны. Даследаваны няблага курганныя пахаванні, даследаваны этнаграфічна больш познія пахаванні, а вось гэта – пахаванні XIV-XVIII стст – такая лакуна, якая не даследаваная. Яна выпадае. Мы хочам закрыць гэты прабел і пяты год тут – у Зябках і Івесі – праводзім археалагічныя раскопкі, наша кафедра ладзіць раскопкі і ў іншых месцах. З цягам часу інфармацыя назапашваецца, яна ўжо ўвайшла ў кнігі. Нядаўна з'явілася кніга па палеантрапалогіі Беларусі, дзе ўжо ўключаныя звесткі аб пахаваннях у Івесі. Быў сумесны беларуска-расійскі праект. Гэта – замярэнні працягласці жыцця, хваробы, антраметрычныя параметры, напрыклад, рост чалавека. Усё – карысна для нашай гістарычнай навукі і нашай агульнай памяці.

**– Наколькі вялікая Вашая археалагічная экспедыцыя?**

– Спачатку ўдзел у раскопках бралі 24 чалавекі. Прыехалі і нашыя выпускнікі гэтага года, завочнікі шостага курса. Без іх мы не змаглі б адолець такі фронт работ, абмежаваліся б толькі 20 м². А хлопцы досыць фізічна моцныя, з розных рэгіёнаў Беларусі, розныя заняткі ў іх, ёсць сярод іх і пагранічнікі, ёсць занятыя ў сферы адукацыі, культуры, прадпрымальніцтве, прыехалі нашыя старэйшакурснікі, якія праходзілі тут музейную практыку, дазволілі ім праходзіць з намі, а не ў музеі, ды знаходзіць артэфакты для музеяў. Праходзілі тут археалагічна-этнаграфічную практыку студэнты завочнага аддзялення 2-га курса.

Цяпер нас засталося восем, сярод якіх Дзмітрый Абрамчык, супрацоўнік Глыбоцкага музея, які прыехаў сюды валанцёрам.

Спадарства, Вы б бачылі твары і вочы Насці і Антошкі!!! У іх вачах было такое неапісанае захапленне, так уважліва яны слухалі, што нібыта "прыліплі" да археолага! Сапраўднага, не з тэлевізара, і на рэальных археалагічных раскопках!

– Насця, паехалі дадому!– пачуўся патрабавальны голас бабулі. – Ты што хочаш тут застацца і капаць? Археолагам стаць! Паехалі!

– У нас толькі адна праблема – бабуля!– чую, шэптам жаліцца Насця археолагу.

Насця і Антошка аслухаліся, не падпарадкаваліся, пайшлі следам за археолагам чытаць надпісы на камянях і крыжах.

Надпісы ў цені дрэваў вельмі добра чытаюцца пад касым промнем ліхтарыка. Антошка з энтузіязмам узяў у рукі ліхтарык.

– "Ісус Хрыстос"– бачыце, чытаецца?– кажа археолаг. – Крыж, хіба што, уніяцкі, а мо і праваслаўны.

– Артэфакты з раскопак можна паглядзець у нашым лагеры, які адсюль кіламетры за два, на беразе возера,– раіць Віктар Чараўко.

– Не! Едзем дадому!– камандуе бабуля.

– А мы хочам паглядзець!– не згаджаюцца дзеці. – Паехалі ў лагер!

Што ж, паехалі! Праўда, хвілінаў сем, рэшту шляху прыйшлося ісці пешшу! Дарога не для аўта. Наўкола – трава ў рост чалавека, пах кветак! Прыгажосць! Чаму не косяць? Мо таму, што стаіць шыльда – "Гідралагічны заказнік "Доўгае".

Дайшлі... Месца надзвычай маляўнічае! Шмат палатак, катлы над кастром, у якіх гатуецца ежа, і возера – самае глыбокае на Беларусі.

На цэлафанавых прасцірадлах ляжалі чалавечыя косткі і чарапы, побач ... – зубныя шчоткі, якімі іх чысцілі ад бруду, а таксама з дзясятак мяшкоў з тымі з самымі артэфактамі. Усё гэта павязуць на даследаванні ў Мінск. Побач – цэлы арсенал рыдлёвак.

– Чарапы і косці... Я думала, будзе страшна! Не, не страшна, зусім!– кажа ўнучка. – Усё вельмі цікава!

Пакажыце сваім унукам сапраўдную Беларусь, аб якой не пішуць у падручніках, аб якой не скажуць на ўроках гісторыі ў школе. Ім тут жыць, ім далей будаваць краіну. А каб будаваць краіну – трэба, найперш, быць яе патрыётам!



**Віктар Уладзіміравіч Чараўко, старэйшы выкладчык кафедры гісторыі і турызму Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэту, паказвае школьнікам страдаўнія тэксты, якія чытаюцца на каменным крыжы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Лагер археолагаў хаваўся за гарой, як толькі мы на яе ўзышлі, то ўнізе адкрыўся такі відарыс... Усе, ледзьве не хорам, незгаворваючыся, выгукнулі вядомую фразу з фільма "Джэнтэльмены ўдачы" : – *Археолагі-і-і! Ау-у-у!*** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Гэтыя артэфакты – чарапы і косці – павязуць у Мінск на даследаванні. Як жылі людзі, якія хваробы іх пераследавалі – высветляць там.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Барыс Хамайда: Час, калі я іду, для мяне найлепшы адпачынак

## Грэка-католікі ўшанавалі памяць пяці полацкіх пакутнікаў

**З гэтай нагоды адбылася пешая пілігрымка з Віцебску ў Полацк.**

**■ Зміцер Лупач, Леанід Юрык**

Яна пачалася ад месца, дзе загінуў святы Язафат Кунцэвіч, і закончылася каля сцен Сафійскага сабора, дзе за веру світа рускага цара Пятра І забіла пяць манахаў.

Як распавёў нам удзельнік пілігрымкі **Арцём Калугін** з Віцебску:

*– Гэта ўжо 21-ая пілігрымка, мы ідзём тут з Віцебску да полацкай Сафіі, узгадваючы і мучаніцкую смерць Язафата Кунцэвіча і пяці полацкіх пакутнікаў, якія былі забітыя царскім акружэннем. Сам настаяцель наогул быў забіты асабіста Пятром І.*

Па словах Арцёма, з Віцебску выйшла 46 пілігрымаў, зараз жа іх каля сотні. Мы сустрэлі пілігрымку перад Полацкам, калі яны спыніліся на малебен каля крыжа ў Струнне. Гэты крыж усталяваны на месцы, дзе некалі размяшчалася летняя рэзідэнцыя полацкага арцыбіскупа. Пра гэта нам распавёў краязнаўца **Міхась Баўтовіч**:

*– Гэта была летняя рэзідэнцыя арцыбіскупаў полацкіх, а з таго часу, калі Кіеў увайшоў у склад Расіі, тут была і рэзідэнцыя грэка-каталіцкага мітрапаліта. Калі ж полацкая Сафія была разбураная падчас выбуху парахавога склада, Струнна некалькі дзесяткаў гадоў выконвала ролю асноўнай рэзідэнцыі.*

Зараз на гэтым месцы ўжо нічога не засталося, стаіць толькі крыж, які ўсталявалі неабыякавыя вернікі. А некалі па гэтай сцежцы хадзілі і ездзілі святары, пілігрымы, дзяржаўныя людзі.

Мы гутарым з удзельніцай пілігрымкі **Ірынай Губскай**:

*– Гэта ўжо ў мяне 24-ы дзень у дарозе, я адразу пасля пілігрымкі Брэст–Будслаў пайшла сюды. Нічога мяне не прымушае, ёсць такі покліч сэрца – ісці, быць сведкам Хрыста. Гэта магчымасць сустрэцца з сябрамі, сустрэцца з Богам, з сабой – тое, што немагчыма знайсці ў штодзённым жыцці.*

Спадарыня Ірына з'яўляецца верніцай-рыма-каталічкай. У пілігрымку яна пайшла, каб падтрымаць сяброў па веры. Яна лічыць, што ў Беларусі шмат працы для хрысціян розных канфесій і дзяліцца тут не варта:

*– У Беларусі ўвогуле хрысціянства варта адраджаць. Я думаю, тут для кожнай царквы хопіць поля дзейнасці. Як кажуць, працаўнікоў мала, а праца вялікая. Галоўнае, каб было жаданне працаваць, каб былі сілы для гэтага. Мы праходзілі па вёсках з Віцебску да Полацку, і для мяне, як ураджэнкі заходняй Беларусі, гэта проста вымерлая зямля. Людзі тут ёсць, але іх мала, і яны пілігрымаў не ўспрымаюць ніяк, абсалютна ніяк.*

Наступны прыпынак пілігрымы робяць каля стараабрадскай паморскай царквы ў Полацку. Яе настаяцель Пётр Арлоў, высокі, з сівой барадой, сапраўдны памор, радасна сустракае пілігрымаў. Ён запрашае іх на гарбату ў трапезны храм. Айцу Пятру ўжо за восемдзесят, але калі назіраеш за тым, як ён імкліва завіхаецца каля гасцей, ні за што не верыш у яго ўзрост. З карэспандэнтамі ён размаўляць адмаўляецца, таму пра яго гаворыць настаяцель грэка-каталіцкай царквы святой Параскевы **айцец Аляксандр Шаўцоў**:

*– На пачатку гэту пілігрымку настаяцель гэтай царквы запрашаў толькі побач з царквою, адпачыць, папіць вады, што таксама знак адзінства і брацтва з боку стараабрадскай царквы, потым стаў запускаць нас на падворак царквы, а зараз увогуле мы цешымся з таго, што нас пускаюць у трапезны храм, а гэта для стараверааў месца вельмі значнае.*

Па словах айца Аляксандра, Пётр Арлоў – адзіны, хто прымае ў сваёй царкве грэка-каталіцкіх пілігрымаў. Каля сцен гэтай царквы мы гутарым з **Кацярынай** з Полацку, якая ідзе ў пілігрымцы першы раз:

*– Я пайшла ў пілігрымку першы раз. Нарэшце, збылася мая мара, бо раней не атрымлівалася, то вучоба, то праца перашкаджала. Гэта вельмі класна, гэта самы лепшы адпачынак, як мне здаецца. І адпачыла, і натхнілася, і новыя знаёмствы з'явіліся.*

Далей пілігрымка ідзе па Полацку да сцен старажытнай Сафіі. Там пад сценамі храма адбываецца кароткі малебен у памяць полацкіх пакутнікаў.

Пра свае ўражанні кажа віцяблянін **Барыс Хамайда**:

*– Я ўжо ў трэці раз іду, першы раз у 2013 годзе, другі раз – у 2014 годзе, і вось сёлета ўжо іду ў трэці раз. Я калі іду гэтыя кіламетры, сто ці болей, я іду амаль моўчкі, у мяне ў галаве вечнасць, я ні аб чым не думаю, я адпачываю. Гэты час, калі я іду, гэта для мяне найлепшы адпачынак. Мне нікуды не хочацца ехаць адпачываць, і я цэлы год чакаю гэту пілігрымку. І ў наступным годзе таксама пайду. Пакуль ногі носяць, буду хадзіць.*

Тут жа мы сустрэлі і ветэрана пілігрымак спадарыню **Людмілу Пятровіч**:

*– Ініцыятарам гэтых пілігрымак быў святар Валер Алексейчук, зараз ён уладыка Бенедыкт, дапаможны біскуп львоўскі. Менавіта па яго ініцыятыве мы пачалі хадзіць, каб ушанаваць памяць пяці полацкіх пакутнікаў. Першая пілігрымка налічвала каля дваццаці чалавек, былі гады, калі было і больш за сто вернікаў. За гэты час на нашым шляху паўсталі касцёлы, у Шуміліне, у Обалі, з'явіліся свае святары, дыяканы… У нас у Віцебску напачатку было толькі некалькі вернікаў, а зараз ужо фактычна дзве парафіі.*

Спадарыня Людміла выказвае падзяку святарам з Украіны, якія ў свой час дапамаглі адрадзіць у Беларусі грэка-каталіцкую царкву.

Святар з Украіны **айцец Сцяпан**, які служыць у грэка-каталіцкай семінарыі, і які прыехаў сюды з двума сваімі студэнтамі, каб яны змаглі пабачыць, як жыве грэка-каталіцкая царква ў суседняй дзяржаве:

*– Паколькі мы суседзі, мы павінны дапамагаць адзін аднаму і, на маю думку, украінская царква павінна дзяліцца тымі дарамі, якія яна мае, са сваёй сястрой – беларускай царквой. Ад гэтага мы ўсе толькі выйграем: і мы, і беларусы.*

Ад Сафіі пілігрымка ідзе да грэка-каталіцкага храма на ўскраіне Полацку, дзе і адбываюцца асноўныя мерапрыемствы. Спачатку вечарам прайшла служба, у якой удзельнічалі пілігрымы. А ўжо назаўтра вернікі святкавалі ўрачыстасць святых Барыса і Глеба. На святкаванне прыехаў і архімандрыт Сяргей Гаек.

Па заканчэнні службы мы гутарым з вернікам грэка-каталіцкай царквы **Віктарам Стукавым**, які прызнаецца, што да веры прыйшоў праз сваіх дзяцей:

*– Цяжка было прыйсці, мы ж савецкія людзі, нас так выхоўвалі, што царква гэта нешта з іншай планеты. Калі пры царкве стварылася нядзельная школа, я спачатку аддаў туды сваіх дзяцей. Калі яны прайшлі катэхізацыю, яны сталі задаваць пытанні: а чаму, вы, бацькі, не ходзіце ў царкву. Мы толькі і чакалі гэтага пытання, і адразу пайшлі. Так што мы праз нашых дзетак прыйшлі ў царкву.*

Мы спыталі ў **айца Змітра** з Мінску, ці мае будучыню грэка-каталіцкая царква ў Беларусі:

*– Перспектыва заўсёды ёсць. Калі ёсць жаданне людзей, ёсць Божая воля, то будзе і перспектыва. Паколькі царква да гэтага часу існуе нягледзячы на розныя цяжкасці. Калі пачыналася адраджэнне царквы, быў адзін святар стары, хворы і яшчэ адзін, які перайшоў з рымакаталіцтва, і гэта была ўся царква. І калі айцец Аляксандр Надсан прыехаў у Беларусь, то ўсё, што ён меў, гэта тых двух святароў. А сёння ёсць 15 парафій зарэгістраваных, яшчэ столькі, якія праходзяць гэты працэс. Вернікаў яшчэ не тысячы, але ўжо сотні ёсць, нараджаюцца дзеці, значыць, царква прабівае сабе шлях у гэтым свеце і ў гэтай краіне.*

Што ж, будзем спадзявацца, што ў грэка-католікаў Беларусі будзе ўсё добра. А вернікаў на заканчэнне свята чакаў смачны абед і канцэрт.









*Да вішнёвага фэсту ў Глыбокім*

# Святкуем разам

Наш край цудоўны, ён прыродаю багаты.
Народных талентаў, як у нас, шчэ пашукаць!
Браслаўе рыбнае з Дрывятам і Навятам,
Балоты з журавін на Мёршчыне ляжаць.
У Паставы звон цымбалаў слухаць едзем,
Гармонік з бубнам сэрца весяліць.
Здаўна сябры мы добрыя, суседзі,
І нам заўсёды ў згодзе, ладзе жыць.
Усіх яблык шаркаўшчынскі запрашае!
На Спас прыходзьце ў Сікораў сад.
У Глыбокім фэст вішнёвы мы вітаем,
Сустрэць гасцей заўсёды горад рад.
Глыбоцкі край праз вішні знакаміты.
У садах ураджай збірае кожны дом.
А дрэўцы ў спадчыну пакінуў, не забыты
Людзьмі Лапыр, славуты аграном.
Цвіценнем радуюць парой вясновай вока –
Нявестаў-вішань вэлюмы плывуць.
Над родным маім горадам Глыбокае
У снах і ў памяці, чароўныя, жывуць.

*Людміла Ардынская*

# Адумайцеся, на гэтай зямлі жыць Вашым дзецям і ўнукам!

**Прырода Рэспублікі Беларусь вельмі разнастайная. У нас шмат лясоў, азёр, рэк, балот, толькі вось як мы ставімся да іх захавання?!**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*



Надыходзіць час паспявання ягад, і пачынаецца масавы іх збор камбайнамі. Многія грамадзяне, парушаючы закон, ідуць у лес, каб зарабіць грошай, але ўсё калісьці заканчваецца, пры затрыманні парушальнікаў супрацоўнікамі інспекцыі або лясной аховы іх чакае велізарны штраф.

Таму, Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае ўсім грамадзянам пра тое, што збор ягад усіх відаў з дапамогай «камбайна» або грабянца забаронены. Заканадаўствам устаноўлена адміністрацыйная адказнасць за збор ягад з дапамогай грабянцоў, ч.2 арт. 15.26 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйных правапарушэннях» прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з вяртаннем прычыненай прыродзе шкоды, за 1 кг ягад спаганяецца шкода ў памеры 2,2 базавых велічыні (396 тыс. руб.) Калі ж шкода, нанесеная прыродзе, складзе больш за 100 базавых велічынь, то ў дачыненні да парушальніка будзе распачата крымінальная справа.

Толькі за адзін тыдзень ліпеняінспектарамі затрыманабольш за 20 ягадных браканьераў. Сума накладзеных штрафаў склала больш за 25 млн. рублёў. Паважаныя нашы грамадзяне, адумайцеся, на гэтай зямлі жыць Вашым дзецям, унукам!

Пасля некалькіх разоў збору ягад пры дапамозе грабянцоў ягаднікі перастаюць пладаносіць, у многіх месцах можна назіраць прыгожыя кусты чарніц, але ягад на іх няма, гэта вынік неадназовага прымянення «камбайнаў».

Паглядзіце, што пакідаюць пасля сябе грамадзяне ў лясах: кучы смецця, пластыкавых бутэлек, бляшанак, няўжо ў сябе дома так смецяць? Глыбоцкая міжраённая інспекцыя будзе прымяняць да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства самыя строгія меры адказнасці.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-2-86-70 або мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 2494549, 645- 66-78.**

# Атрымаў штаф за тое, што дрэнна стаяў на «шухеры»

**Нягледзячы на не зусім цёплае надвор'е ў выходныя дні народ масава пацягнуўся на адпачынак у лес, на возера, на прыроду - і гэта самыя «гарачыя» дні для работнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі. Бо, не сакрэт, што культура нашых грамадзян яшчэ далёкая ад нармальнага чалавечага разумення.**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Пасля адпачынку грамадзян заўсёды знойдзеш кінутае смецце, непагашаныя вогнішчы, пустыя бутэлькі, нармальнай з'явай становіцца мыйка аўтатранспарту каля вадаёмаў, здабыча рыбы сеткамі. Але, у асноўным усе бачныя факты парушэння грамадзянамі ігнаруюцца, няма рэакцыі на іх учыненне, поўная абыякавасць, максімум, што могуць сказаць, а вось, я ўчора бачыў, як лавілі рыбу сеткай або ставілі сеткі, але інспектараў не было. А вось патэлефанаваць на кругласутачны дзяжурны тэлефон інспекцыі або на мабільныя тэлефоны інспектараў гэта – не, гэта ж стукацтва.

На ўсіх вадаёмах поўна рыбакоў, але рэакцыя на факты яўнага браканьерства ўсюды аднолькавая - ніякай рэакцыі, мая хата з краю. І ўсё ж за апошнія гады браканьерства значна скарацілася, а парушальнікі закона панеслі суровыя пакаранні, што відаць з ніжэй прыведзеных прыкладаў.

8 траўня 2015 года супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, ажыццяўляючы рэйдавыя мерапрыемствы на вадасховішчы Азярцы Глыбоцкага раёна, затрымалі двух жыхароў г. Наваполацка, Хуртова Уладзіміра і Страдзеня Максіма, якія ўсталёўвалі на сажалцы сеткі, а вось рыбы здабыць не паспелі. Суд Глыбоцкага раёна пакараў кожнага з парушальнікаў штрафам па 10 базавых велічынь ці 1 млн. 800 тысяч рублёў.

9 траўня гэтага года інспектарамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі за незаконнае паляванне, без дазваляльных дакументаў, паблізу в. Шантараўшчына Докшыцкага раёна затрымалыя двое жыхароў г. Мінска, Мілішкевіч Уладзімір і Навойчык Ігар. Раённы суд аштрафаваў парушальнікаў на 20 базавых велічынь, кожнага, з пазбаўленнем права палявання тэрмінам на 3 месяцы, але пасля ўступлення ў сілу рашэння суда супрацоўнікі міліцыі анулююць дазвол на права захоўвання і нашэння зброі тэрмінам на 3 гады мінімум. А здача экзаменаў на права палявання - гэта задача з мноствам невядомых.

19 чэрвеня гэтага ж года супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі на возеры Чачалі Глыбоцкага раёна затрымалі мясцовых жыхароў в. Падгаі і Харашкі, Гузанова Антона і Стоціка Аляксандра, якія з дапамогай сеткі лавілі рыбу. Суд Глыбоцкага раёна аштрафаваў Гузанова Антона на 25 базавых велічынь або 4 млн. 500 тыс. рублёў, а Стоціка Аляксандра за тое, што дрэнна стаяў на «шухеры» на 21 базавую велічыню або на 3 млн. 780 тыс. рублёў.

Гэта толькі маленькая частка прыкладаў пакаранняў парушальнікаў, і ў кожным з гэтых выпадкаў рыбы было здабыта зусім няшмат, звер здабыты не быў, але наступствы для парушальнікаў былі вельмі сур'ёзныя. У бліжэйшы час мы надрукуем рашэнні раённых судоў па крымінальных справах, звязаных з браканьерствам, сумы штрафаў і пакаранні там будуць у дзясяткі, сотні разоў вышэйшыя, магчыма з пазбаўленнем волі.

**Аб усіх вядомых фактах парушэння прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефоны: 8- 02156-2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.**



# Піўны алкагалізм у падлеткаў



**У апошні час лекары з трывогай загаварылі аб піўным алкагалізме.**

■ **Д.А. Шыльчонак,** *фельдшар-валеолаг*

Піва заўсёды лічылася класічным «стартавым напоем», з якога пачыналі практычна ўсе алкаголікі, паступова пераходзячы да больш моцных напояў. На жаль, сёння піва і цыгарэта сталі модным атрыбутыкай перш за ўсё падлеткаў і моладзі. А ў падлеткаў алкагалізм фарміруецца ў 3 – 4 разы хутчэй, чым у дарослых, і мае больш злаякаснае цячэнне.

Людзі не вераць, што піва можа давесці да сапраўднага алкагалізму, бо алкаголю ў ім «кот наплакаў». На працягу дня з півам можна незаўважна прыняць ладную дозу алкаголю, дастатковую як для развіцця алкагалізму, так і для яго таксічнага дзеяння на арганізм – у першую чаргу ад гэтага пакутуюць сэрца, печань і мозг.

Паколькі піва звычайна не выклікае такога моцнага ап'янення, як моцныя напоі, яго спажыванне спакойна ўспрымаецца сям'ёй і грамадствам. З-за гэтага спажыванне піва павялічваецца, што, у сваю чаргу, спрыяе развіццю алкагалізму.

Падлетак значна хутчэй атрымлівае псіхатропны эфект – «кайф» ад піва і падсвядома імкнецца менавіта да гэтага. Тыповая карцінка: па дарозе са школы 16-гадовы хлапчук выпівае бутэльку піва, праз гадзіну сустракае прыяцеляў і выпівае яшчэ адну. Вось вам і літр піва, выпіты «паміж справай». Назаўтра такая ж карціна паўтараецца, і з'яўляецца спачатку звычка, а потым – залежнасць. Малады чалавек не ўсведамляе, што п'е алкагольны напой, які змяняе яго псіхіку. Звычка да такіх паводзінаў: сёння «піўко», заўтра «траўка», потым яшчэ што-небудзь памацней – на жаль, хутка і рэзка дэфармуе асобу ў цэлым.

Паўлітровая бутэлька піва моцнасцю 5 аб'ёмных адсоткаў алкаголю (у 100 г піва – 3,8 г чыстага спірту; у паўлітровай бутэльцы – 19 г). Гэта ўжо 50 г гарэлкі, 9% піва – гэта 100 г гарэлкі. І чым вышэй моцнасць, тым агрэсіўней вядуць сябе атрутныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў піве.

Асаблівую небяспеку ўяўляе моцнае піва, якое становіцца ўсё больш папулярным. Дабаўка алкаголю не толькі павялічвае яго крэпасць да 12%, але і робіць напой асабліва небяспечным. Алкаголь узмацняе таксічнае дзеянне некаторых кампанентаў піва, якія ўтрымліваюцца ў вельмі малых колькасцях.

У арганізме няма ні аднаго органа і тканкі, якія не падвяргаліся б дзеянню алкаголю:

- сэрца пад яго ўплывам хутка зношваецца;
- ныркі перастаюць вылучаць з арганізма шкодныя прадукты;
- клеткі печані гінуць, яна зморшчваецца і губляе сваю ахоўную функцыю (навукоўцамі даказана, што ад цырозу печані часцей за ўсё паміраюць менавіта аматары піва);
- пакутуе нервовая сістэма: пагаршаецца памяць, аслабляецца ўвага;
- парушаюцца разумовыя працэсы, рэзка мяняюцца паводзіны, у якойсьці меры дэфармуецца асоба (з'яўляецца жорсткасць, запальчывасць, мсцівасць альбо прыгнечанасць, скаванасць, замкнёнасць, немагчымасць знайсці «агульную мову з бацькамі»);
- сістэматычнаеўжыванне алкаголю вельмі хутка вядзе да прывыкання.

**Выяві сілу волі, слухай голас розуму: не папускайся на спакусы і думай пра сваю будучыню!**

